# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



## *Да паважаных Айцоў Настояцеляў прыходаў, усяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства.*

*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» зварочваецца да ўсяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства з ветлівай просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*Гэта ні ад каго незалежны орган, які ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, нацыянальнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці скліканьня Краявога Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня 1. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоўна-Народны двутыднёвік
Орган Праваслаўных Беларусоў.

1 лістапада 1928 году

Падпісная цана:
за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.;
да канца году — 3 зл.

№ 5

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. Летняя № 7.

## Пагоня.

Як толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Ўспомню Вострую Браму Сьвятую
І ваякаў на грозных канях.
У белай пѐне праносяцца коні,—
Рвуцца, імкнуцца і цяжка храпяць,
Старадаўняй Літоўскай Пагоні,
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць!
У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі—гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Гдзе шляхі вашы йдуць і куды?
Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі ў здагон,
Што, забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?
Усе лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць...

М. Багдановіч.

# Адрывак з уступнай лекцыі Блажэньнейшага Мітрапаліта Дзіанісія па пастырскаму Багаслоую у Варшаускім Унівэрсытэце

## (4-га траўня 1926 г.).

Сярод сусьветных вучыцялёў Пастырскага Багаслоўя, шчырым вучням якіх павінен быць кожны вучыцель і вучань гэтае навукі, першае мейсца займае Іаан Златавуст, архіяпіскап Канстантынопальскі. Ён быў запраўдным пастырам, ўплашчэньнем пастырства ў абставінах рэальнага чалавечага жыцьця. Жыцьцёвасьць яго вучэньня ведама ўсім ці не патрабуе асаблівых тлумачэньняў.

З цэлага шэрагу пытаньняў, адносячыхся да пастырскага сьветапагляду і разуменьня жыцьця, возьмем адно, — заўсёды старое і заўсёды новае, — **пытаньне аб рабстве і свабодзе**, і высьвятлім яго па Іаану Златавусту. Чаму існуе няроўнасьць людзей на сьвеце? Скуль яна паходзіць? Чаму адныя людзі моцныя, другія слабыя? Чаму адныя пануюць, другія падпарадкуюцца? Чаму ёсьць уладары і падуладныя? Паны і слугі? Нармальны ці не нармальны гэтыя зьявішчы ў людзкім родзе? Дзе выхад з іх? Дзе свабода? Дзе шлях, дзе сродкі да гэтага выхаду? У чым запраўдная свабода чалавека? Вось шматлічныя пытаньні вольнай і нявольнай цікавасьці чалавека. Колькі ёсьць прыгожых тэорыяў і вучэньняў аб свабодзе, брацтве і роўнасьці ўсіх людзей. Колькі ёсьць доктрынаў, стараючыхся вырашыць гэтыя пытаньні паміма Хрыста і Эвангэльля Хрыстова. Есьць асобны навуковы кірунак, які завецца сацыялізмам. які ставіць сябе ў вырашэньні гэтых падставовых пытаньняў чалавечага жыцьця проста на мейсца хрысьціянства. Згэтуль зразумела, якое вялікае значаньне мае ў хрысьціянска-пастырскім сьветапаглядзе і разуменьні жыцьця правідловае вырашэньне гэтых пытаньняў аб рабстве і свабодзе. Якія-ж дадзеныя знаходзіць сьв. Іаан Златавуст у слове Божым для вырашэньня гэтых пытаньняў? Якія ён робіць з іх вывады? Ен гаворыць аб рабстве і свабодзе ў некалькіх мяйсцох сваіх твораў. а іменна: 1) у „Слове шостым аб Лазары“, 2) у „Гутарцы XXIX аб кнізе Быцьця“, 3) у „Словах IV і V аб кнізе Быцьця“, 4) у „Гутарках аб тым, што адзін Заканадацель Старога і Новага Заветаў, а таксама аб вопратцы сьвяшчэньніка і аб пакаяньні“, 5) у „Гутарках аб Эвангэльлі, сьвятога апостала Іаана Багаслова“, наўр. LIY, L,IX“, 6) у „Гутарцы XXII аб пасланьні да ефесеянаў“ і 7) у „Гутарцы навучальнай, сказанай у храме сьвятой Анастасіі адносна адсутных і тлумачэньні подвігаў блажэннага і праведнага Іава“.

Бог не стварыў рабства. Ен стварыў чалавека свабодным. Чалавек праз сваё грэхападзеньне пазбавіўся свабоды і зрабіўся рабом. Якія-ж выгляды рабства ўвёў грэх, зьвязаўшы нашую прыроду рожнымі абмежаваньнямі падобна тырану, накладаючаму рожныя кайданы?

Першы выгляд рабства той, у якім мужы трымаюць жанок. Ен зрабіўся патрэбным пасьля граху. Да праступленьня жонка была раўначэсна мужу. Святае Пісаньне называе Еву памочніцаю Адама і ня проста памочніцаю, але памочніцаю падобнаю яму, ці **паяму**, паказваючы іх роўнасьць (Быц. 2. 18—20). Але гэта было да грэхападзеньня; пасьля-ж грэхападзеньня Бог сказаў: **Да мужа тваяго зварот твой і той табой уладаць будзе** (Быц. 3, 16). Я, кажа, стварыў цябе раўначэснаю, ты-ж злаўжыла сваёй уладаю, — дык перайдзі-ж у падпарадкаваньне: ты ня вынесла свабоды, — дык прымі рабства; ты сваім учынкам паказала, што ня ўмееш панаваць,—будзь-жа ў ліку падданых і

ў мужы пазнай пана. Каб пачуўшы словы: **той табой уладаць будае**, жонка не палічыла гэтага ўладаньня цяжкім, Бог паставіў спераду яе імя, паказваючы на апеку, сказаўшы; **Да мужа тваяго зварот твой**, г. зн. ён будзе табе абаронаю; ва ўсіх бедах даю права да яго зварачвацца, у яго шукаць апекі. Бачыш, як грэх увёў падпарадкаваньне, а ўсеразумны Бог і гэта зьвярнуў на карысьць нам. Так першае панаваньне ўвяло праступленьне.

З таго часу і да сяньняшняга дня дзяўчына, калі ня мае бацькі ці брата, яна—слабы безбаронны чалавек, якога лёгка пакрыўдзіць і які з вялікім высілкам можа збудаваць сваё жыцьцё. Гэтак сама і жанчына, згубіўшая мужа, ці ўдава, ня мае ні таго імені, ні тае пашаны, ні тае сілы, ні тае пэўнасьці жыцьця, якую яна мела пры мужу і ад мужа. І шмат перашкодаў спатыкаюць фэміністы ў сваім добрым імкненьні пашырыць правы жанчыны, грамадзкія і палітычныя, да зраўнаньня яе ва ўсім з мужчынай. Але любоў хрысьціянская, чыстасьць душы, навуковая адукацыя, дапамога мужчыне. мужу, брату, сыну,— ў справе маральнага ўдасканаленьня і спасеньня, дабрата, пакорнасьць, усё гэта ставіць жанчыну ў Царкве Хрыстовай на высокім роўні, дае ёй першае мейсца ў жыцьці хрысьціянскакультурнага чалавецтва і робіць роўнай мужчыне, а часам і ўзвышае над ім.

Есьць і іншы выгляд рабства, цяжэйшы ад першага: і ён таксама мае сваю падставу ў граху. Пасьля патопу, які быў пры Ноі, пасьля агульнага разбураньня, саграшыў Хам проціў сваяго бацькі. Пабачыўшы бацьку распраненым, ён яшчэ больш распрануў яго дакорам перад братамі, і за гэта зрабіўся рабом. Злое распалажэньне згубіла дабрадушнасьць прыроды, і — зусім натуральна, Пісаньне апраўдывае Ноя, бо апошні яшчэ ня ведаў дзеяньня віна (Быц- 9,20), ня ведаў ні таго, колькі можна піць віна, ні таго як піць, — чыстае ці мяшанае з вадой, ні таго, калі піць,—ці зараз пасьля таго, як будзе зроблена, ці праз нейкі час. Пісаньне апраўдывае Ноя, а радзіўшыся ад яго, спасённы ім (бо ня згінуў разам з іншымі ў фалях патопу дзякуючы заслугам бацькі), не зьвярнуўшы ўвагі на самую прыроду, ня ўспомніўшы аб сваім спасеньні, бачучы яшчэ перад сабою рэшткі гневу Божага і сьляды няшчасьця, калі моцны быў яшчэ страх перад адбыўшымся, абразіў бацьку. Ен зрабіў грэх, які не заслугоўвае выбачэньня. І ў кару за грэх—ён зрабіўся рабом—слугой сваіх братоў. Вось і другі выгляд рабства.

З таго часу, калі які-небудзь народ падае духова і губляе маральную сілу волі над сабой, ён губляе сацыяльную свабоду і робіцца рабом мацнейшых духам і воляй народаў. Калі-ж наступае духовае адраджэньне народу і зьбіраецца ў яго духовая энэргія і сіла волі, ён скідае з сябе кайданы няволі і робіцца зноў свабодным народам.

Трэці род рабства яшчэ цяжэй і страшней папярэдніх. Які-ж гэта трэці род рабства? Гэта падпарадкаваньне кіраўнікам і ўладарам, не такое, як падпарадкаваньне жонкі і не такое, як падпарадкаваньне рабоў, але шмат страшнейшае. Усюды можна бачыць адточаныя мячы (а ў нашыя часы іншыя, больш дасканальныя прылады вайны), палачоў, казьні, катаваньні, уладу над жыцьцём і сьмерцю. А што і гэты выгляд панаваньня стаў неабходным у выніку граха, пераканаешся з слоў апостала Паўла. **Калі хочаш**, кажа ён, **не баяцца ўлады, рабі дабро: і будзеш мець пахвалу ад яе. Калі-ж благое робіш, бойся: бо не дарэмна меч носіць** (Рым. 15, 3-4). Бачыш, што і кіраўнік і меч для тых, хто робіць блага. Паслухай яшчэ сказанае аб тым-жа з вялікшай дакладнасьцю. **Есьць помста для тых, хто робіць блага**. І не казаў ён „не дарэмна існуе кіраўнік“, а што: **не дарэмна меч носіць.** Ґрэх зрабіў нам ня толькі кіраўнікоў, князёў і цароў, але і ўзброіў іх; прымусіў сілай аружжа, тэрорам уладаць і кіраваць намі. Бог паставіў над намі судзьдзёй узброенага. Як добры бацька па сваёй дабраце аддае дзяцей, калі яны не аддаюць яму належнай пашаны, злаўжываючы бацькаўскай любоўю,— аддае строгім вучыцялям, так і Бог па дабраце сваёй аддаў нашу прыроду, не аддаваўшую Яму

належнай пашаны, як-бы вучыцялям, каб яны паправілі іх ад бясьпечнасьці. Можаш бачыць у Старым Завеце доказ таго, што якраз дзякуючы нашай папсутасьці зьявілася патрэба ўлады (цывільнай ці вайсковай). Адзін з прарокаў, ебураны на нечасьцівых, вось як кажа: Госпадзі! Чыстым вачам тваім неўласьціва глядзець на благія ўчынкі і глядзець на ўціск ты ня можаш. Чаму-ж ты глядзіш на зладзеяў і маўчыш, калі нечасьцівец губіць таго, хто справядлівейшы яго, і пакідаеш людзей, як рыб у моры, у якіх няма ўладара. (Авак. 1, 13-14). Так кіраўнік дзеля таго, каб мы ня былі **як гады**, уладар дзеля таго, каб мы не паядалі адзін аднаго, **як рыба**. Як лекі для хваробаў, так кары для зладзеяў; вось трэці род улады, які таксама мае ў падставе грэх і парок. Дзеля гэтага апостал Павал кажа, што **няма ўлады, якая не ад Бога** (Рым. 13,2). Ен гэтым хоча сказаць, што Бог устанавіў уладу для нашай карысьці. Грэх зрабіў патрэбнаю ўладу, а Бог ужыў яе на нашую карысьць. Як лекі патрэбны бываюць дзеля ранаў, ужываньне-ж іх залежыць ад розуму дактароў; так і патрэбнасьць улады выклікана грахом, належнае-ж яе задаваленьне справа розуму Божага.

Але й яшчэ аб новым, чацьвёртым родзе ўлады кажа Златавуст, аб такім, які мае сваю падставу ня ў граху, а ў самай прыродзе. Які-ж гэта род улады? Гэта ўлада бацькоў пад дзяцьмі. Гэтая пашана ёсьць нагародай за мучэньні нараджэньня. Дзеля гэтага ён і кажа: **Як уладаром служы радзіўшым цябе** (Сір. 3, 7); далей ён гаворыць: **Што ім аддасі за тое, што яны даюць табе** (Сір. 7, 30). Што-ж, аднак, можа быць такога, чаго-б сын ня мог аддаць бацьку? Ні аб чым іншым кажа як аб наступным: як яны парадзілі цябе, ты ня можаш парадзіць іх. Дзеля гэтага, калі ў гэтым мы ніжэй за іх, дык будзем старацца перавысіць іх у іншых адносінах, у пашане да іх, ня толькі па закону прыроды, але і з пачуцьця страха Божага. Воля Божая вымагае, каб дзеці шанавалі бацькоў і выконываючы гэта нагараджае вялікімі дарамі, а не выпаўняючых гэтага закону карае вялікімі няшчасьцямі. **Калі абражае бацьку ці матку — хай памрэ** (Усх. 21, 16). А шанаючым іх кажа наступнае: **Шануй бацьку тваяго і матку тваю, і добра табе будзе, і доўга жыць будзеш на зямлі** (Усх. 20, 21). Што лічыцца найвялікшым дабром г. зн. шчасьлівая старасьць і доўгае жыцьцё, гэта Бог вызначыў у нагароду шануючым іх, а што здаецца найвялікшым няшчасьцем, г. зн. раньняя сьмерць, гэта Ен вызначыў за кару абражаючым іх.

Вось падставы, якія ўстанавіў Златавуст у вырашэньні пытаньняў аб панаваньні, уладаньні, рабстве, падпарадкаваньні і свабодзе. Тут прыведзена можа адна тысячная доля гутарак Златавуста на пытаньні сацыяльнага быту людзкога роду, якімі павінен кіравацца кожны пастыр, пры пазнаньні людзей. Але і сказанага даволі каб пераканацца, што творы сьвятых айцоў—гэта найвялікшая крыніца пастырскага сьветагляду і разуменьня жыцьця. Калі мы пераканаемся ў гэтым, дык з любоўю будзем учытывацца ў творы сьвятых айцоў і будзем знаходзіць у іх не адныя толькі дагматычныя праўды, ці маралі, будзем выносіць з іх ня толькі паняцьце аб велічыні пастырскага служэньня, аб вялікай адказнасьці пастыра перад Богам за няўмелае ці нестараннае выкананьне сваяго пастырскага доўгу, але і зразумеем з іх самую сутнасьць жыцьця. З іх мы даведаемся, што ёсьць чалавек у сваім вялічч,ы і ў сваім упадку, як адбываецца духовае ўдасканаленьне чалавека, і як грэх падыходзіць да чалавека і ўладае ім, як устрымаць чалавека ў радасьці і як пацешыць чалавека ў бядзе і няшчасьці, як падыйсьці да яго, чым зацікавіць яго, як не адпіхнуць яго ад сябе, як ня згубіць яго?...

Маючы такую багатую крыніцу пастырскае веды, пастары сучасныя і пастары будучыя няхай бадзёра глядзяць уперад і, не аглядаючыся назад, ідуць па абранаму імі пастырскаму шляху. Адданьнем сябе на пастырскае служэньне, яны, па Златавусту, выказываюць сваю любоў да Хрыста, згодна з словамі Самаго Хрыста. Зварачваючыся да галоўн. з апосталаў, Ен, Хрыстос, кажа: **Пётра,**

**ці любіш мяне?** і, калі той выказаў любоў сваю; Ен дадае: **Калі любіш Мяне, пасі оўцы Мае** (Іаан 21, 15-16). Вучыцель пытае вучня, ці любіць вучань яго, не дзеля таго, каб Самому ведаць гэта (бо ці-ж можа Усяведучы ня ведаць сэрцы ўсіх), але каб навучыць нас, як Ен клапоціцца аб спасеньні гэтага стада. Калі-ж гэта ясна, дык будзе так сама ясна і тое, што вялікая нагарода прыгатавана прымаючым на сябе гэную працу, якая дарага цэніцца Хрыстом... Дзеля гэтага, калі вучань адказаў: **Госпадзі, Ты ведаеш, як люблю Цябе**, і запрасіў Самога любімага ў сьведкі свае любві. Ен хацеў паказаць тады ня тое, як Пётр любіў гЯо, — гэта ўжо з шмат чаго было ведама нам. але як Ен Сам любіць Царкву сваю і навучыў Пятра і ўсіх нас, каб мы апекаваліся Ей... **Пётра**, кажа Хрыстос, **ці любіш Мяне, больш за ўсіх? Пасі аўцы Мае** Ен мог-бы сказаць яму: калі любіш Мяне, пасьціся, сьпі на голай зямлі, абараняй уцісканых, будзь сіратам замест бацькі і матцы іх замест мужа; але, пакінуўшы ўсё гэта, што кажа Ен? „Пасі оўцы Мае“?...

---

# Царства Божае і царства кесара.

(Працяг, гл. № № 1, 2, 3, 4).

Хрысьціянства ня мае абавязкавай сувязі з манархіяй ці з якой-небудзь іншай формай палітычнага ладу. Манархія можа быць хрысьціянскай ці антыхрысьціянскай па духу. Усё залежыць не ад фармальных адзнакаў, а ад духовага зьместу. Мы ўжо ня можам верыць у абсалютнае значэньне юрыдычных і палітычных формаў. Мы выходзім з эпохі абсалютызаванай фармалістыкі. Спасеньня нельга шукаць у формах, спасеньне топькі ў духовай сутнасьці жыцьця. І крызіс, які адбываецца ў Расіі і ва ўсім сьвеце, не зьяўляецца крызісам якой-небудзь палітычнай формы, гэта ёсьць крызіс кожнай палітычнай формы, аднолькава дэмакратыі і манархіі. І мейсца, якое займае хрысьціянства ў жыцьці, акрэсьліваецца духовай сутнасьцю жыцьця, а не палітычнымі формамі, ня вонкавым ладам жыцьця. Падзеньне куміраў і ідалаў, як імпэрыялістычных так і сацыялістычных вельмі карысна для хрысьціянства. Хрысьціьнства, асабліва расейскае хрысьціянства, ізноў прыходзіць у стан, быўшы да Канстанціна Вялікага. У Расіі, у праваслаўі крызіс гэты катастрафічны. На Захадзе, у каталіцтве ён эвалюцыйны і паступовы. Цяпер якраз адбываецца зьліквідаваньне ўсяго пасьляканстанцінаўскага пэрыяду хрысьціянскай гісторыі. Тыя адносіны, якія былі паміж Царквой і Дзяржавай, паміж хрысьціянствам і сьветам пасьля Канстанціна Вялікага, — ня вечны і не абсалютны. Гэта часовыя, пераходныя адносіны. Хрысьціянства ўваходзіць у зусім новы трэці пэрыяд. Скончыўся пэрыяд сымбалічнага асьвяшчэньня царскай улады. Вонкава — прымусовая і ўмоўна-сымбалічная еднасьць хрысьціянскага сьвету распалась, яна распалась з сярэдзіны і гэта выразілася ў працэсах сэкулярызацыі і рэвалюцыях. Сьвет падзяліўся. Стала ясным, што прымусовае зьдзейсьненьне Царства Божага ў царстве кесара немагчыма. Царства кесара жыве па сваяму закону. І гэты катастрафічны працэс зьяўляецца ня толькі шкодным для Царквы Хрыстовай, але разам і карысным, Хрысьціянства губляе ў колькасьці, але выігрывае ў якасьці. У Расіі пачалось ганеньне на Царкву з боку бязбожнага антыхрысьціянскага гаспадарства і скончылася падпарадкаваньнем Царквы дзяржаве, што давяло яе да стану, аб якім Дастаеўскі сказаў, што Царква з часоў Пятра паралізавана. Няшчырая і благая апека з боку дзяржавы для Царквы страшней як ганенъні. Ганеньнямі нельга

напалохаць хрысьціьн, у іх загартоўваецца рэлігійны дух, але афіцыяльнай апекай, пазбаўляючай Царкву самастойнасьці, можна паралізаваць энэргію хрысьціян. І аднак мы павінны прызнаць, калі мы будзем рэлігійна глядзець на адбываючуюся катастрофу, што Царква ня толькі пасыўна пераносіць удары звонку, з боку рэвалюцыі, але што ў самой Царкве адбываюцца духовыя зьмены, пераход у іншую гістарычную эпоху. І звароту да старой эпохі, да старых адносінаў Царквы да дзяржавы, да старога асьвяшчэньня царства кесара, ня можа быць і яго нельга жадаць. Трэба глядзець уперад, а не назад. Царква Хрыстова зноў становіцца перад бурнымі стыхіямі сьвету, зноў спатыкаецца з варожым царствам кесара. Але ўнутры ўсё ўжо іначай, як да Канстанціна, у першыя стагодзьдзі хрысьціянства. Хрысьціянству праціўстаіць не дахрысьціянскі, паганскі сьвет, а сьвет антыхрысьціянскі, маючы ў падставе пачынаньні варожыя Хрысту. І ганеньні з боку сьвету антыхрысьціянскага страшней, як ганеньні сьвету дахрысьціянскага. Царства кесара ўнутрана падзялілась. У сьвеце няма супакою. Меч разсякае сьвет. Кончылася пара мяшанага стану, вонкавае еднасьці і няйтральнасьці. Мы пераходзім да рэальнасьцяў жыцьця і павінны ўсё называць уласнымі імёнамі. Нельга ўжо называць хрысьціянскім таго, што нічога хрысьціянскага ў сабе ня мае. Сьвет рэальна падзяляецца на царства Хрыстова і антыхрыстова. Царква заўсёды будзе асьвяшчаць уладу. Але ці будзе заўсёды ўлада знаходзіцца ў руках хрысьціян гэта ня ведама. Ды й ці-ж можа хрысьціянская ўлада падтрымліваць еднасьць сьвету, які падзяліўся на два царства і ў якім колькасьцю перавышае, і мусіць, будзе перавышаць, царства антыхрысьціянскае. Царства кесара толькі да часу згаджалася называць сябе хрысьціянскім. Але яно ня стала хрысьціянскім у сваіх рэальнейшых каранях і падставах, яно засталося паганскім, прыродным царствам, лёгка ўспрымаючым антыхрысьціянскія элемэнты. І ў старым хрысьціянскім, тэакратычным царстве кесара, магутна прабіваліся антыхрысьціянскія пачынаньні, похаць улады царства гэтага сьвету. Сьвяшчэнныя моцныя манархіі маглі існаваць толькі да тых пор, пакуль прыроднае царства кесара было яшчэ няйтральным, пакуль у ім не адбыўся яго падзел і ня выкрыліся пачынаньні антыхрысьціянскія. Але калі гэта адбылася, сьвяшчэнная манархія робіцца ўтопіяй. І трагічным робіцца становішча хрысьціянства перад бурнымі стыхіямі сьвету: яно ня можа быць цалком ні з „правым“ лягерам ні з „левы“, ні з сярэднім, бо ва ўсіх гэтых лягерах аднолькава можа пераважаць бязбожнае царства кесара. Хрысьціяне могуць і павінны аддаваць кесарава кесару, але Божага ня могуць аддаваць кесару, у якім-бы вобліку кесар не зьявіўся. У гэтым сутнасьць падзеяў нашага часу.

У новы гістарычны пэрыад, у позьнюю пару гісторыі хрысьціяне павінны стаць на шлях рэальнага, а не сымбалічнага зьдзейсьненьня хрысьціянства ў жыцьці, зьдзейсьненьня праўды Хрыстовай. Праўда Хрыстова можа і павінна быць зьдзейсьнена пры ўсіх гістарычных варунках. Умоўнымі хрысьціянскімі знакамі і пячацямі мы ня можам ужо здаволіцца. Мы ўступілі ў пэрыад жыцьця, калі ўсё павінна быць рэальным. Калі мы хрысьціяне, дык мы ня можам не жадаць, каб грамадзянства было рэальна хрысьціянскім, а ня ў яўна хрысьціянскім. У хрысьціянстве заўсёды застаецца эсхаталягічная надзея, у ім ня можа скончыцца чаканьне Царства Божага, якое павінна перамагчы сьвет. Сутнасьць наступаючай эпохі ў хрысьціянстве на тым і палягае, што ў ёй хрысьціянства зноў будзе эсхаталягічна, а ня выключна гістарычна. І ідэя Царства Божага павінна быць эсхаталягічна, а не гістарычна вытлумачана. Наша эпоха мае вонкавае, фармальнае падабенства з першымі стагодзьнзямі хрысьціянства, але ўнутрана цяпер усё ўжо іншае, шмат труднейшае. Гісторыя не прайшла дарма. Царства Божае ня можа быць зьдзейсьнена ні ў нашай гістарычнай плоці, ні ў нашым прасторы і часе, яно ня там і ня тут, яно ня мае бачаных адзнакаў, яно ня можа быць створана ні якой гістарычнай эволюцыяй

і ня можа быць умацавана ні якой абаронай, яно таксама ня ў „правым“, як і ня ў „левым“, у ім няма таксама нічога „рэакцыйнага“, як няма і нічога „рэвалюцыйнага“. Толькі ў канцы часоў у цудоўным праабражэньні сьвету можа быць зусім выяўлена Царства Божае, яно ў будучыні, але яно таксама і ў вечнасьці, яно няпрыкметна прыходзіць і ў кожную хвіліну павінна намі актыўна зьдзейсьнівацца. Да Царства Божага нельга дастасаваць ніякіх катэгорыяў, узятых з царства кесара, яно ня мае ні якога падабенства з царствам кесара, у ім усё іншае і ўсё па іншаму. Царства Божае нічога супольнага ня мае з радавым ладам жыцьця, на якім абаснаваны ўсе манархіі. Царства Божае ня ёсьць сымбалічным асьвяшчэньнем царства кесара, але яно ня ёсьць і гістарычным жыцьцём Царквы, як думаюць каталікі сьледам за Бл. Аўгустынам — у Царстве Божым Бог ёсьць усё ва ўсім, яно ёсьць рэальным, а не сымбалічным царствам. І яно знаходзіць сябе ва ўсім, што дасягае запраўднай анталягічнай рэальнасьці, што знаходзіць сябе ў Богу. Царства Божае ня можа быць створана адной людзкою актыўнасьцю, але яно ня можа быць створана і без чалавечай актыўнасьці.

**Бердзяеў.**

(Канец будзе).

---

# Прычыны падзелу Царквы і варункі магчымага злучэньня.

Сьвятыя апостолы далі нам прыклад вырашаць важнейшыя справы царкоўнага жыцьця на саборах. На апостальскім Саборы, адбыўшымся ў 51 годзе пасьля Нараджэньня Хрыста ў Ерусаліме, яны вырашылі справу, якая ўжо ў пачатку існаваньня Царквы пагражала яе еднасьці. Апостальскі Сабор, як ведама, звольніў хрысьціян з паганаў ад выкананьня над імі абрэзаньня і гэтым аўтарытэтна палажыў канец рожным спрэчкам па гэтаму пытаньню. Пасьля гэтага ўсе важнейшыя справы царкоўнага жыцьця, разважаліся ці на краявых, калі тая ці іншая справа датычыла аднае царквы, ці на сусьветных, калі справа закранала жыцьцё ўсяе Хрыстовае Царквы, — Саборах.

Сусьветных Сабораў, аднолькава прызнаных усею Хрысьціянскаю Царквою, г. зн. і праваслаўнаю і каталіцкаю, было сем, на іх па магчымасьці зьяжджаліся япіскапы ўсяго хрысьціянскага сьвету. Усе гэтыя сем Сабораў адбыліся на Усходзе, дзе заўсёды паўставалі і прычыны для іх склікаcaptionньня. Заходняя Царква, якая знаходзілася ў межах Рымскае Дзяржавы, карысталася больш спакойным жыцьцём: гэты царкоўны спакой залежаў ад палітычных варункаў жыцьця Рымскае Дзяржавы.

Ні на адным з сямі Сусьветных Сабораў самыя япіскапы рымскія ня бывалі, але прысылалі на іх сваіх паўнамоцнікаў (легатаў). На першым Сусьветным Саборы была сьцверджана перавага ўлады япіскапаў трох сталіцаў Рымскае Дзяржавы: Рыма, Александрыі і Антыяхіі, потым з імі былі зраўняны япіскапы Ерусалімскі і Канстантынапальскі.

На 4-м Сусьветным Саборы было прызнана, што ўсе гэтыя япіскапы маюць аднолькавыя правы і толькі рымскі, як першае сталіцы дзяржавы, лічыўся першым паміж роўнымі.

З часам значна зьмянілася вонкавае становішча гэтых пяці япіскапаў, ці патрыярхаў.

Патрыярхаты Александрыйскі, Антыяхійскі і Ерусалімскі шмат перацярпелі ўціску ад магамэтан, і вобласьці іх значна зьменшыліся. Канстантынопаль-

скія патрыярхі таксама шмат уціску пераняслі ад цароў іканаборцаў, а вобласьць рымскіх патрыярхаў ці пап ня толькі ня зьменшылася, але пашыралася на ўсёй Заходняй Эўропе. Адначасна з гэтым пашырэньнем улады духоўнае рымскія патрыярхі здабылі сабе і ўладу сьвецкую.

Такое ўзмацаваньне ўлады рымскіх патрыярхаў было прычынаю імкненьня іх да падпарадкаваньня сабе ўсіх другіх патрыярхаў. Рымскія патрыярхі сталі забывацца аб роўнасьці з другім і ставілі сябе на новую ступень Заступнікаў Хрыста і наступнікаў апостала Пятра, якому, быццам, належала пяршэнства над усімі апосталамі.

Адначасна з гэтым у рымскай Царкве былі дапушчаны некаторыя асаблівасці ня толькі ў абрадах але і догматах ня згодныя з сьвяшчэнным пісаньнем і пастановамі сямі Сусьветных Сабораў.

Патрыярхі Канстантынопальскі, Антыахійскі Ерусалімскі і Александрыйскі зварочвалі ўвагу рымскіх патрыярхаў як на дапушчаную імі рожніцу ў догматах, абрадах, так і на безпадстаўнае іх імкненьне да падпарадкаваньня сабе ўсяе Царквы.

Вынікам гэтае царкоўнае палітыкі рымскіх патрыярхаў быў вельмі сумны факт падзелу адзінае Хрысьціянскае Царквы на дзьве варожыя: Усходнюю — Праваслаўную і заходнюю — Рымска-Каталіцкую. Гэты сумны і вельмі шкодны для ўсяе царквы факт меў мейсца ў 1054 г.

З тае пары прайшло 900 гадоў. Як праваслаўная так і каталіцкая царквы імкнуцца да аб'яднаньня, але падыход да гэтага аб'яднаньня рожны. Рым разумее гэтае аб'яднаньне так, што яно можа зьдзейсьніцца толькі праз прызнаньне Рымскага патрыярха найвышэйшым архіярэям, галавою ўсяе царквы, Заступнікам Хрыста на зямлі.

Праваслаўна Царква шчыра жадае і моліцца аб злучэньні цэркваў, але гэта злучэньне разумее толькі на падставе сьвяшчэннага пісаньня, пастановаў Апостальскага Сабору, догматаў і пастановаў сямі Сусьветных Сабораў, якія адбываліся пад кіраўніцтвам Сьвятога Духа. з прадстаўнікоў усіх царквоў, дзеля чаго пастановы іх маюць агульнае і вечнае значэньне для ўсяе Хрыстовае Царквы.

# Сьвяшчэньнік.

„Сьвяшчэнствуй народам тваім!
Хвалу паднімеце ка Мне,
Няхай у тваей Старане,
Я буду народам хвалім.
„Сьвяшчэньнік у ласцы сьвятой
Малітвай кіруе народ,
Вядзе ка Хрысту ў агарод
Сьвятога, хвалімай ступой.
„Сьвяшчэнна народа хвала!
Нясецца на неба, к Хрысту:
Сьвятую нясе праскату,
Што мудрай на сьвеце была.

**Міхал.**

# КАНКАРДАТ

## заключаны Апостальскай Сталіцай і Рэспублікай Польскай.

(Канец, гл. № 3, 4).

Арт. XXI.

Права патранату духоўнага таксама і асобаў прыватных застаецца ў сіле да новага ўкладу. Вызначэньне асобы духоўнай на вольнае мейсца будзе выконвацца патронам на працягу 30 дзён, прычым вызначаны будзе адзін з трох кандыдатаў, прадстаўленых Япіскапам. Калі на працягу 30 дзён вызначэньне ня будзе выканана, дадзенае мейсца застаецца вольным. У выпадках, калі справа ідзе аб бенефіцыях настаяцельскіх, Япіскап перад вызначэньнем, зьвярнецца згодна з арт. XIX да адпаведнага Міністра.

Арт. XXII.

У выпадку, калі-б асоба духоўная ці манах былі абвінавачаны судом сьвецкім у нейкім праступленьні, караным правамі карнымі Рэспублікі Польскай, улада судовая неадкладна мусіць паведаміць адпаведнага Япіскапа аб справе, а таксама прыслаць яму акт абвінавачаньня, вырак судовы і матывы абвінавачаньня. Япіскап, ці яго паўнамоцнік, па сканчэньні справы, будуць мець права пазнаёміцца з адпаведнымі актамі. У выпадку арэшту вышэйуспомненых асобаў, улада цывільная будзе захоўвацца адпаведна сану і ступені сьвяшчэнства дадзенай асобы.

Асобы духоўныя будуць адбываць арэшт у памешканьнях асобных ад сьвецкіх, пакуль не пазбаўлены сану адпаведным Япіскапам. У выпадку прысуджэньня ім арэшту судовым выракам, будуць адбываць яго ў манастыры ў памешканьнях, вызначаных для гэтай мэты.

Арт. XXIII.

Ніякае зьмены ў мове, ужыванай ў япархіях лацінскага абраду ў казаньнях, службе Божай і выкладах іншых, як выклады сьвятых навук у сэмінарыях, ня будзе зроблена іначай, як з дазволу Канфэрэнцыі Япіскапаў лацінскага Абраду.

Арт. XXIV.

1) Рэспубліка Польская прызнае правы асобаў праўных касьцельных на рухомую маемасьць, а таксама нярухомую, капіталы, даходы і іншыя правы, якія гэтыя асобы маюць цяпер на абшарах Польскае Дзяржавы.

2) Польская Дзяржава згаджаецца, каб вышэйуспомненыя правы на маемасьць, калі-б ня былі яшчэ ўпісаны ў гіпатэчныя кнігі на імя ўстаноў праўных (Япіскапстваў, Капітул, Кангрэгацыяў, Манастыроў і інш.), упісаць на падставе дэкларацыі адпаведнага Япіскапа, пасьведчанай адпаведнай уладай цывільнай.

3) Справа маемасьці, якой Касцёл быў пазбаўлены Расеяй, Аўстрыяй і Прусіяй, і якая цяпер перайшла на ўласнасьць Польскае Дзяржавы, будзе вырашана асобным укладам. Да таго часу Урад дае Касьцёлу забясьпечаньні ня меншыя ад тых, якія выдаваў урад расейскі, аўстрыйскі і прускі Касьцёлу на абшарах, належачых цяпер Польшчы. У выпадку парцэляцыі гэтых маемасьцяў япіскапствы, сэмінарыі і настаяцельскія бенефіцыі ня маючыя зямлі, ці маючыя яе ў нездавальняючай колькасьці, атрымаюць прыблізна па 180 гэкт. на япіскапства, 180 гэкт. на сэмінарыю і, залежна ад якасьці зямлі ад 15 да 30 гэкт. на настаяцельскую бенефіцыю,

4) Каб палепшыць стан гаспадаркі і ўзмацніць гэтым хрысьціянскі спакой

# Якубу Коласу.

То ня сонца ўзыходзіць вясною
Страхануці прыроду ад сну,
То ня сонца і летняй парою
Асьвяціла ўсю Старану,—
Гэта сын засіяў мне сабою,
Распаліў мне сэрца жыцьцём,
Гэта сын запяяў мне душою,
Абдарыў Маці ўсю пачуцьцём.

**Ключановіч.**

---

у краі, Апостальская Сталіца згаджаецца каб Рэспубліка Польская выкупіла ад япіскапскіх бенефіцыяў, сэмінарыяў, бенефіцыяў капітулярных і настаяцельскіх, маючых зямлю у колькасьці, перавышаючай надзелы: 15—30 гэкт., залежна ад якасьці зямлі, для звычайнай настаяцельскай бенефіцыі, 180 гэктараў для капітулы, 180 гэкт. для япіскапства і 180—для сэмінарыі. У япархіях, у якіх сэмінарыі ня маюць зямлі ворнай, асобна ад япіскапства, сэмінарыі атрымаюць 180 гэкт. вольных для выкупу, незалежна ад 180 гэкт., прызначаных для япіскапства.

5. Вышэй успомненыя асобы духоўныя будуць мець права выбраць самі з належачай да іх маемасьці часткі, якія ў вышэй акрэсьленай колькасьці застануцца іх уласнасьцю.

6) Вартасьць выкупу зямлі будзе выплачана паводле правілаў выкупу зямлі, належачай асобам прыватным.

7) Сталіца Апостальская згаджаецца, каб землі, належачыя дамам кангрэгацыяў і манастырам, а таксама іх установам дабрачынным, былі выкуплены Дзяржавай, згодна з правіламі, якія будуць стасавацца п ры выкупе маемасьці, належачай асобам праўным сьвецкім, з правам для кожнае вышэй успомненае ўстановы захаваньня 180 гэкт. ворнай зямлі.

8) Асобы духоўныя будуць мець права нароўні з асобамі сьвецкімі беспасрэднага выкананьня парцэляцыі зямлі да іх належачае.

Арт. XXY.

Усе статуты, загады ці дэкрэты. спрэчныя з пастановамі вышэйшых артыкулаў, трацяць сілу ў хвілі ўвядзеньня ў жыцьцё гэтага канкардату.

Арт. XXYI.

Сталіца Апостальская выканае, на працягу трох месяцаў ад увядзеньня ў жыцьцё гэтага Канкардату, згодна з Урадам разьмежаваньне правінцыяў касьцельных. Межы правінцыяў касьцельных будуць адпавяцаць межам Польскае Дзяржавы.

Арт. XVXII.

Гэты Канкардат войдзе ў жыцьцё пасьля двух месяцаў па замене дакумэнтаў.

Уложана ў Рыме, дзясятага лютага дзевяцьсот дваццаць пятага году.

(—) Пётра Кардынал **Гаспарры**.
(—) Уладыслаў **Скржынскі**.
(—) Станіслаў **Грабскі**.

# Літоускі Статут.

## (Беларускія Законы)

Літоўскім Статутам называецца знаміты зборнік даўных законаў Літоўска-Беларускага гаспадарства.

Законы гэтыя спрадвеку былі ў сьвядомасьці беларускіх племяньняў; яны разьвіваліся, аднаўляліся і пераходзілі з рода ў род праз ужытак іх на практыцы.

У пачатку 16 веку нашыя выдатныя законьнікі сабралі іх, апрацавалі згодна з правам усіх эўрапэйскіх народаў і запісалі ў зручным для карыстаньня парадку. Скончылі яны сваю працу ў 1529 годзе.

Літоўскі Статут адразу зрабіў сабе славу. Праз год яго пераклалі з беларускае мовы на лацінскую, а праз тры годы—на польскую.

Дзеля некаторых зьмен у гаспадарсьцвенным ладзе стары Беларускі Статут быў пазьней перагледжаны. У другой рэдакцыі і ён быў зацьверджаны на Віленскім Сойме ў 1566 годзе.

Люблінская вунія нашае бацькаўшчыны з польскім каралеўствам прынесла, як ведама, яшчэ большыя зьмены ў праўных адносінах у Беларусі і Літве. Літоўскі Статут быў ізноў перагледжаны асобнаю камісіяй пад старшынствам ведамага канцлера Лявона Сапегі і зацьверджаны соймам у 1588 г.

Статут 1588 году быў надрукаваны ў Віленскай Беларускай друкарні слаўных братоў Мамонічаў. Адзін экзэмпляр яго ёсьць цяпер у Беларускім Нацыянальным Музэі імені Івана Луцкевіча ў Вільні.

Мова Літоўскага Статуту служыць прыкладам урадавае беларускае мовы 16 веку, а ўвесь Літоўскі Статут зьяўляецца надзвычайна дарагой памяткай нашае слаўнае мінуўшчыны.

Літоўскі Статут сьведчыць аб высокім разьвіцьці беларускае культуры. Гэты зборнік законаў бараніў адзінства і самастойнасьць нашае бацькаўшчыны, а також роўнасьць усіх перад законам.

Вось прыклад з Літоўскага Статуту 1529 года.—разьдзел I, артыкул 9:

> „Тож хочам і ўстаўляем вечнымі часы хаваны, іж усі падданыя нашы, так убогія, яка і багатыя, каторага-бы-кольвек роду або стану былі, роўна а аднастайна тым пісаным правам маюць суджаны быці“.

---

# Царкоунае жыцьцё.

Эстонія да гэтага часу лічылась дзяржавай, якая найбольш талеранцыйна адносілася да Праваслаўнай Царквы. Гэтыя адносіны лёгка тлумачацца і агульна высокай культуральнасьцю эстонскай і тым, што каля 20% насельніцтва Эстоніі праваслаўнага вызнаньня. Тым больш нечаканай для усіх, хто цікавіцца становішчам Праваслаўнай Царквы ў Эстоніі, была вестка аб тым, што ў Рэвельскае Дзяржаўнае Сабраньне паступіў заканапраэкт аб разборцы рэвельскага Аляксандра-Неўскага Сабору. Рыжская газэта „Сегодня“ так паведамляе аб гэтым:

У Дзяржаўнае Сабраньне Эстоніі паступіла прапанова аб разбураньні Праваслаўнага Аляксандра-Неўскага Сабору ў Рэвелі. Матывуецца гэтая прапанова з аднаго боку, палітычнымі матывамі, бо сабор нібы зьяўляецца помнікам русыфікацыйных тэндэнцыяў старога ладу, з другога-ж боку—эстэтычнымі прычынамі, бо будынак сабору псуе сваімі формамі агульны гістарычны сераднявечны абраз старога Выш гораду.

Прапанова гэтая далёка не арыгінальна. Яна зьяўляецца як-бы працягам такіхжа праэктаў у іншых дзяржавах; у Польшчы быў разбураны Катэдральны сабор, у Латвіі зьнесена часоўня каля вакзалу.

Самая зьява такіх праэктаў — зьявішча вельмі характэрнае для пасьляваеннага часу. Відаць, што пасьляваенны пэрыад стварыў такія настроі, якія можна вытлумачыць толькі сваяго роду хваробай грамадзянства, выкліканай крывавай барацьбой, з яе забыцьцём усіх вышэйшых вартасьцяў ранейшых пакаленьняў.

Рэлігійная талеранцыя, пашана да чужой сьвятыні, імкненьне ўнікаць усяго, што можа зачапіць пачуцьцё веруючых, — усё гэта да вайны лічылася элемэнтарным вымаганьнем ад кожнага, хто лічыў сябе культурным чалавекам.

Калі-б у маральную пару магла прыйсьці думка разбурыць якую-небудзь царкву проціў волі веруючых, толькі таму, што з будаўнікамі гэтае царквы зьвераны нейкія няпрыемныя ўспаміны? Такія праэкты здаваліся-бы дзікімі бязсэнсоўнымі, аб чым нават і гаварыць, нават сур'ёзна ніхто ня стаў. Калі так заглядацца на справу дык у дэмакратычных і рэспубліканскіх дзяржавах трэба было-б разбурыць усе дварцы, бо ў іх жылі каранаваныя „тыраны“; трэба было-б зьніштожыць усе феадальныя замкі і іншыя гістарычныя будынкі, скуль паходзіў часта ўціск народу, вольнага ў сучасную пару. Гістарычныя ўспаміны, як матывы для разбураньня, пярэчаць ня толькі правасузнаньню, але і падставовай ідэі наступнасьці, пры якой сучаснасьць заўсёды зьвязана з мінуўшчынай.

Нават і ў часе вайны ніхто не дадумаўся да разбурэньня будынкаў, зьвязаных з ваюючым ворагам. Калі ў Петраградзе натоўп зрабіў спробу разбурыць нямецкае пасольства, гэта было спаткана ўсюды як нешта немагчымае...

Але псыхоз вайны зрабіў сваю справу. Ен абярнуў нацыянальнае пачуцьцё ў нешта пярэчачае культуры. На жаль, імкненьне выявіць сваё натуральнае нацыянальнае пачуцьцё ў формах недапусьцімых, разбураючых, выявілась найбольш у дзяржавах, атрымаўшых незалежнасьць у часе вайны..,

Усё сказанае можна аднясьці, ясна, і да Польшчы, і да Латвіі і да Эстоніі...

Як-бы шмат варожасьці не сабралась, дзякуючы неразумнай расейскай палітыцы старога расейскага ладу адносна Польшчы, якія-б сумныя ўспаміны ня былі зьвязаны з учынкамі расейскай улады, збудаваная ў Варшаве царква была ўсё-ж царквою, у якой маліліcь сотні тысячаў людзей і якая была сьвятыняй не для ўлады, а для веруючых, Іменна гэты момант, пашана да чужых пераконаньняў, пашана да тых пачуцьцяў і настрояў, якія знаходзяць свой выраз у рэлігіі, павінны служыць абаронай цэркваў ад эксцэсаў нацыяналізму.

Калі ў Рызе быў зьдзейсьнены хацяж і ў невялікіх памерах, праэкт разбураньня праваслаўнай сьвятыні, дык усе адчулі, што гэта было непатрэбна і шкодна для дзяржавы, з пункту гледжаньня мірнага сужыцьця ўсіх нацыянальнасьцяў і вызнаньняў.

Яшчэ ў вялікшай меры ўсё гэта можна дастасаваць да праэкту разбураньня праваслаўнага сабору ў Рэвэлі. Мы не ідэалізуем папярэдную расейскую палітыку, выяўляўшуюся ў Эстоніі. Але ці-ж так ужо вяліка ў народзе варожасьць да ўсяго расейскага, што трэба было нават разбурыць царкву толькі таму, што яна збудавана з дапамогаю расейскае ўлады? Ці-ж у той царкве і цяпер ня моляцца тысячы эстонскіх ляяльных грамадзян? Ці-ж гэтае разбураньне ня будзе ўдарам па рэлігійнаму пачуцьцю соцян тысячаў веруючых?

Ці-ж можна высунуць вонкавую прыгожась гораду, як аргумант проціў найглыбейшых чалавечых рэлігійных пераЖываньняў? Самы заўзяты эстэт, самы фанатычны паклоньнік стылю і характва формаў не асьмеліцца пасягаць у імя стылю на тое, што дорага чалавечай душы.

Эстонія мае апінію прагрэсыўнай старонкі, дзе пашана да чужой нацыянальнасьці, да чужой рэлігіі выявіліся ў формах заканадаўчых актаў, зьяўляю-

чыхся ўзорам для іншых старонках. На ўсіх міжнародных зьездах і кангрэсах іменна адносіны Эстоніі да меншасьцяў высоўваецца, як вялікае дасягненьне маладое дзяржавы. Ці думаюць тыя „патрыёты“, якія ўнясьлі сваю прапанову ў Дзяржаўную Раду, аб тым, які ўплыў зробіць іх разбураючы праэкт на Эстонію, як культурнае дзяржавы?

Папулярны эстонскі дзеяч гэн. Лайданер, ведамы і за межамі свае бацькаўшчыны, заявіў, што культурныя дзяржавы Эўропы і Амэрыкі ніколі не зразумеюць такога разбураючага акту. Калі для варшаўскага прэцэндэнту было тлумачэньне, што жывы яшчэ ўспаміны аб старых крыўдах і што праэкт разбураньня ўзьнік вельмі хутка пасьля вайны, дык гэта ня можа быць апраўданьнем да эстонскага праэкту: аб абідах у Рэвелі ўспомнілі праз 10 гадоў пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Эстоніі...

З глыбокім задаваленьнем усе прыяцелі Эстоніі спаткалі заяву Галавы дзяржавы нашаму карэспандэнту, што ініцыятыва праэкту не паходзіць ад ураду і што лёс царквы павінен быць вырашаны з пункту гледжаньня рэлігійных пачуцьцяў тае часткі насельніцтва, да якой царква належыць. Яшчэ больш варты ўвагі пагляд на гэтую справу гэн. Лайданера, які адкідаючы бязсэнсоўны праэкт, заявіў, што народ павінен не разбураць, а будаваць новае: разбурэньнем нельга выкрэсьліваць гістарычных фактаў.

Гэтыя водклікі правадыроў Эстоніі даюць пэўнасьць, што праэкт ахвотнікаў-разбурыцеляў ня будзе зьдзейсьнены і застанецца толькі доказам таго нездаровага ўхілу нацыяналізму, які непатрэбны і шкодны наагул, а асабліва для новых дзяржаваў, будуючых самое свае існаваньне на падставе права і свабоды.

Артыкул гэты тым больш варты ўвагі, што аўтар яго, колькі нам ведама не належыць да хрысьціянскага вызнаньня. Але, ясна, кожны праваслаўны ахвотна-б падпісаўся над гэтымі словамі, у якіх відна запраўдная культура і пашана да чужой свабоды і веры.

---

# Праваслаўная Царква у Латвіі.

У рыжскіх газэтах пададзены весткі аб тым, што паслы Латвійскага Сойму, прадстаўнікі прафэсіянальных саюзаў, унясьлі ў Сойм прапазыку аб разборцы Праваслаўнага Сабору ў Рызе. Глава Праваслаўнае Царквы ў Латвіі, архіяпіскап Іаан, таксама пасол Сойму, ў сувязі з гэтым піша ў рыжскай газэце „Сегодня“ наступнае.

„Ленін, чалавек бязумоўна скрайняй лявізны, нават у пэрыяд псыхічнае хваробы, не знаходзіў нічога, што непакоіла-б яго сумленьне тым, што перад вокнамі яго палацу ўзвышаліся залатыя главы сабораў, быўшых як магільнікам расейскіх цароў, так і мейцамі іх каранацыі. Ен загадаў на дзяржаўныя грошы адрамантаваць гэтыя Саборы.

Таксама і Лацыса не непакоіла і не непакоіць тое, што з вакон ВЧК відны главы Васілія Блажэннага, што Сабор гэты стаіць на адным пляцу з маўзалеям Леніна, што бронзавы Мінін пальцам паказвае і на Маўзалей Леніна і на памешканьне інтэрнацыяналу. Відаць, наш Лайцен (правадыр латвійскіх прафсаюзнікаў), дарваўшыся да ўстановы сувэрэннае ўлады, хоча паказаць сьвету лявізну больш левую за Леніна і больш жорсткую за Лацыса“.

Трэба адзначыць, што яшчэ ў 1927 годзе Урад Латвіі пастанавіў не разьбіраць сабору. Паводле гэтае пастановы асобныя праваслаўныя царквы і магілкі лічацца ўласьнасьцю праваслаўнае царквы і дзеля гэтага ня могуць быць проціў жаданьня праваслаўнае царквы разабраны, канфіскаваны, ці ўжыты для якіх-небудзь іншых мэтаў.

# Гаспадарчыя парады.

## Вырабатак грунту на гародзе.

Адпаведны вырабатак грунту мае надта вялікую вагу ў гародніцтве. Самы благі грунт, але добра выраблены, дасьць ня менш карысьці, чым самы добры, але абы як ускалыпаны,

У большай частцы вясковыя гароды ад таго толькі слаба родзяць, што вырабатак грунту на іх бывае зусім дрэнны. Не зважаючы на тое, што гародныя расьліны болей пераборлівыя і далікатнейшыя, чым палявое збожжа, вырабатак зямлі на горадзе ні чым ня розьніцца ад польнага. Зазвычай у вёсках вясной пачынаюць араць гароды тады, калі будзе ўжо ўзарана ярное поле, а адгэтага варыва заўсёды бывае познае і благое. Лепей пад гародніну ўзяць меншы кавалак зямлі, але вырабіць яго ў пару і добра, дык карысьці будзе шмат болей, як з вялікага.

Вырабатку зямлі пад гародніну трэба пачынаць з восені. З восені таксама лепей класьці на гарод гной. Араць трэба, як магчыма, глыбей вось дзеля чаго.

Чым будзе глыбей узарана зямля, тым даўжэйшыя і бахмацейшыя карэньні будзе даваць расьліна, а адгэтага і ўся расьліна будзе буйнейшая. Апроч гэтага, калі грунт будзе глыбока ўспаханы, у яго глыбей увaходзіць паветра, ад якога скарэй перагараець гной і пераходзіць у той клёк, які патрэбны расьлінам. На добра выробленых грунтах у мокрае лета расьліны ня так баяцца вільгаці, а ў сухое — засухі. Дзякуючы глыбокаму вырабатку грунту, дажджавая вада скора ўбіраецца ў спodнія слоі зямлі, а ў сухую пагоду рыхласьць верхняга слою грунту ня пускае так лёгка параваць вадзе ў паветра з-пад-зямлі. Глыбокі вырабатак яшчэ добра і тым, што грунт скарэй і лягчэй награваецца, а цяпло, як ведама, спрыяе бардзейшаму росту расьлін.

Калі праз увесь час гарод араўся плытка дык адразу, у адзін год, рабіць глыбокую арбу плугам або перакопваць гарод глыбака лапатай ня можна, дзеля таго, што наверх вывернецца многа дзікай, няплоднай зямлі. Паглыбляць ляпей што год на паўвяршка ці крыху болей. Тады выверненая наверх дзікая зямля будзе няўзнаку для расьлінаў.

Калі зьверху болей цёмны слой грунту досыць тоўсты, дык адразу паглыбляць арбу можна на вяршок, а калі зараз пад верхнім слоем будзе падзол, жоўты пясок, або сіняя гліна; дык паглыбляць баразну трэба асьцярожна, бо выверненая наверх дзікая зямля нават і пры добрым угноіваньні гароду, псуе ўвесь ураджай першага году. Цераз год-другі дзікая зямля пераветрае, пачарнее, перамяшаецца з верхняй, і будзе такой самай добрай. Арацьба гароду робіцца плугам, або ўвесь гарод перакапваецца лапатай. Каб паглыбіць баразну, часта робяць так: праганяюць баразну плугам, а з заду на адзін штых баразна паглыбляецца лапатай.

Лапатай гарод перакапваецца так: каля мяжы глыбінёй на адзін штых капаецца канаўка; зямля з канаўкі кідаецца на мяжу. Калі першая канаўка на адзін штых будзе выкапана, тады каля гэтай канаўкі капаюць другую і зямлю з гэтай канаўкі кідаюць у першую і кідаюць так, каб верхняя зямля з лапаты лажылася наспод, а сподняя наверх.

Перакапываючы гэтак зямлю, трэба за адно выбіраць з яе якое пападаецца карэньне дзікай травы (пырніку і другое). Калі перакапываць зямлю хочуць болей як на адзін штых, тады першую канаўку выбіраюць аршыны на паўтара шырыні і зямля скідаецца ў кучы на тое мейсца, дзе ня будзе капацца. Радам з гэтай канавай капаецца другая, гэткай-жа шырыні і глыбіні, і зямля з яе кідаецца ў першую, так перакапываецца ўвесь гарод. Пры другой мяжы застаецца канава, якая засыпаецца тэй зямлёй, што выкінулі з першай канавы.

Пры гэткай перакопцы зямлі верхні слой болей сытны пападае наспод, а

сподні—бедны — наверх. Карэньні, пускаючыся ўглыб, будуць натыкацца на багаты спажыўнымі часткамі слой. Тым часам ад угноіваньня багацее і выкінуты наверх сподні дзікі слой зямлі.

Глыбокую перакопку варта рабіць у такіх выпадках, калі зьверху будзе цяжкая гліна, а зараз пад глінай блізка пясок, ці наадварот, калі наверху пясок, а пад ім блізка гліна.

Глыбей, як на два штыхі, перакапываць грунт ня трэба. Глыбокая арба і перакопка мае той брак, што, перакапываючы зямлю, мы выкідаем наверх многа дзікай, няплоднай зямлі. Дзеля гэтага, глыбока перакапаўшы або ўзараўшы гарод, трэба даць у зямлю шмат гною; разы ў два або тры болей, як раней і гною толькі перагарэўшага, старога, а не даўгога--саломістага. Апроч гэтага, ўсё роўна некаторыя расьліны, як цыбуля, часнык, агуркі і інш. ў першы год пасьля перакопкі растуць дрэнна. Пагэтаму паглыбляць грунт трэба не адразу на ўсім гародзе, а часткамі, што год.

Найлепшая пара для глыбокай арбы ці перакопкі гароду гэта — восень. Ад марозу, сьнегавой і дажджавой вады нават самыя цяжкія гліны разьбіваюцца ў камкі.

Паглыбляць трэба стары гарод. Новы гарод, у якім яшчэ верхні слой бедны, ня трэба без пары пераварачываць наспод.

Паглыбленьне грунту робіцца яшчэ і гэтак. Плугам праганяецца баразна, глыбінёй вяршкі на 3—4, а за плугам ідуць работнікі з лапатамі і паглыбляюць баразну на адзін штых. Гэта тmakзваны мяшаны вырабатак. Гэткі спосаб ёсьць дзешавейшы і скарэйшы.

Паглыбляюць грунт раз у 6—10 гадоў. На старых гародах бывае з часам так, што ніякое ўгнойваньне не памагае — гарод перастае радзіць. Гэта значыць, што верхні слой грунту, як кажуць, „змогся, выгараўся". У такім разе, каб ізноў гарод стаў радзіць, патрэбна паглыбленьне грунту, (глыбокая арба, або перакопка лапатай).

Араць гарод трэба заўсёды з восені; гэта павінен помніць кожны гаспадар. Баранаваць на зіму ральлю ніколі ня варта. Пакідаць на зіму, як гэта ў нас робіцца, бульбянішчы забаранаванымі нельга. Забаранаваная зямля вясной зьліваецца і скора высыхае. А ў гародзе трэба пільнавацца, каб, як балей, захаваць на лета вільгаці. Узараны з восені гарод павінен у скібах заставацца на зіму.

Апроч таго, што васеньняя арба добра тым, што грунт набірае болей вады ў сябе, яна яшчэ добра I тым, што ў адвернутай плугам ськібе вымярзаюць карэньні пыраю і дзікай травы.

Вясной, як толькі зямля падсохне, трэба зараз-жа забаранаваць яе. Пасьля гэтага робіцца плытчэйшая вясеньняя арба і гарод ізноў барануецца, і толькі пасьля гэтага пачынаюць стаўляць лехі.

Калі гной вывозіцца на гарод вясной, дык ён кладзецца адразу пасьля таго, як гарод будзе першы раз забаранаваны. Пасьля таго, як гной будзе заараны, гарод барануецца і стаўляюцца лехі.

Я. П.

# ХРОНІКА.

## Што гэта значыць?

Дырэкцыя Польскае Гімназіі ў Маладэчні выдала загад ад 29 кастрычніка 1928 г. за № 568, якім на падставе wyciągu z przepisów dla uczniów i uczenic szkół Okręgu Wileńskiego § 25 забараняецца праваслаўным вучням гімназіі браць удзел у царкоўным хоры. „Pod żadnym pozorem Dyrekcja nie może wyrazić swej zgody na należenie uczniów do chóru, złożonego z osób postronnych“.

Гэта значыць, вучням з нявучнямі разам пакуль што сьпяваць ня можна. Магчыма, што ў хуткім часе вучням будзе забаронена і наагул хадзіць у царкву—маліцца разам з другімі праваслаўнымі,

Трэба спадзявацца, што гэтай нязвыклай справай зацікавіцца Япархіяльная царкоўная ўлада і прыме адпаведныя крокі для высьненьня, наскольні падобныя загады карысны ня толькі для праваслаўнае царквы, але і для Дзяржавы.

## Мітрапалітальная Рада.

Вызначанае на канец верасьня г. г. паседжаньне Мітрапалітальнае Рады па незалежным ад Вышэйшае Царкоўнае Улады прычынам не магло адбыцца.

Скліканьне Мітрапалітальнае Рады цяпер назначана на сьнежань месяц, калі зноў ня будзе якіх-небудзь прычынаў ад Вышэйшае Царкоўнае Улады незалежных.

На сэсыі Мітрапалітальнае Рады ў сьнежні маюць быць разгледжаны матар'ялы знаходзячыяся ў сувязі са скліканьнем Краявога Царкоўнага Сабору.

## Хаваньне няаошчыкаў у Вільні.

Віленская Духоўная Кансісторыя дала загад, згодна з якім хаваць нябошчыкаў з усяго горада Вільні мае права толькі прычт сьв. Еўфрасінеўскіх могілак, а прычтам ўсіх другіх царквоў дазваляецца адпяваць нябошчыкаў сваіх прыходаў толькі ў сваіх царквох. Калі-ж прычт якога-небудзь гарадзкага прыходу пажадаў-бы сам пахаваць сваяго прыхаджаніна на магілках—дык ён павінен ў кожным паасобным выпадку вайсьці ў згоду з прычтам Еўфрасінеўскіх могілак адносна платы, якую прычт таго ці іншага прыходу павінен плаціць прычту Еўфрасінеўскіх могілак.

Цікава, як быць у тым выпадку, калі прычт таго ці іншага прыходу будзе хаваць сваяго прыхаджаніна дарма, — хіба-ж ён будзе за гэтую прыемнасьць плаціць прычту Еўфрасінеўскіх магілак з свае кішані.

## Будаваньне гмаху для інтэрнату студэнтаў багасловаў.

19 кастрычніка г. г. у Варшаве адбылася ўрачыстасьць закладкі новага гмаху для інтэрнату студэнтаў праваслаўнага багаслоўскага аддзелу Варшаўскага Унівэрсытэту. Гмах будуецца ў суседзьтве Мітрапалітальнай Царквы сьв. Марыі Магдалены на Празе. Палову гмаху спадзяюцца закончыць у наступным 1929 годзе.

Урачыстае багаслужэньне ў сувязі з гэтым адправіў у Мітрапалітальнай Царкве Яго Найсьвяшчоньства Япіскап Гарадзенскі б. Навагрудзкі Аляксей пры ўдзеле ўсяго ваеннага цывільнага духавенства.

На багаслужэньні былі прысутнымі пан Міністар Рэлігіі і Асьветы з вышэйшымі ўрадоўцамі Міністэрства, а таксама прадстаўнікі другіх міністэрстваў і ўрадовых устаноў.

## Праваслаўны Багаслоўскі Аддзел.

Міністэрства Асьветы зацьвердзіла запрошаных Радаю Варшаўскага Унівэрсытэту прафэсараў на праваслаўны Аддзел А. Латоцкага і В. Беднова. Латоцкі будзе выкладаць гісторыю славянскіх і Рымскае Царквы, а Бедноў — агульную царкоўную гісторыю.

На першы курс Багаслаўскага Аддзелу прынята ў гэтым годзе 44 студэнта.

Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22

# ЗЬМЕСТ.

Пагоня (верш). — Адрывак з уступнай лекцыі Блажэньнейшага Мітрапаліта Дзіанісія. — Царства Божае і царства кесара (працяг). — Прычыны падзелу царквы і варункі магчымага злучэньня. — Сьвяшчэньнік (верш). — Канкардат, заключаны Апостальскай Сталіцай і Рэспублікай Польскай (канец). — Якубу Коласу (верш). — Літоўскі статут. — Царкоўнае жыцьцё. — Праваслаўная царква ў Латвіі. — Гаспадарчыя парады. — Хроніка.